Wilno, 5.III.1939. „SZLACH MOŁADZI“ № 5 (147). Rok XI.






№ 5 (147). Вільня, 5 Сакавіка 1939 г. Год XI.

# САКАВІК — МЕСЯЦАМ ПАЗНАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ ГІСТОРЫІ

У мінулым 1938 годзе 5-га сакавіка падалі мы кліч прысьвяціць месяц сакавік пазнаваньню мінуўшчыны Беларускага народу. Кліч гэты падтрымалі іншыя беларускія часапісы, а галоўна маладыя беларускія вясковыя інтэлігенты, дзякуючы якім паданая намі думка арганізаваньня месяца беларускае гісторыі пачала праводзіцца. Мэтай такога месяца ёсьць выкарыстаць вольны час і ўсімі магчымымі спосабамі з асаблівым націскам глыбей знаёміцца—і знаёміць людзей нязнаючых—з беларускай гісторыяй. І так, дзе будзе магчымасьць, трэба ладзіць адпаведныя лекцыі, вечары, дыскусіі, або прынамсі супольнае чытаньне беларускае літаратуры з галіны гісторыі. Беларуская-ж прэса ў гэтым месяцы павінна пасьвяціць больш месца беларускім гістарычным падзеям і актам.

Сёлета мы йзноў вяртаемся да паднятага летась клічу пазнаваньня ў сакавіку месяцу беларускае гісторыі і заклікаем усіх да працы ў гэтым кірунку кажнага году. Бо гісторыя, як ведаем, мае вялікае значэньне. Народу, які мае сваю гісторыю, сваю традыцыю і ў цяжкіх мамэнтах жыцьцё, праца і барацьба ёсьць лягчэйшым. Гісторыя, сьветлая мінуўшчына, ёсьць вялікай апорай змаганьня за лепшую будучыню; ёсьць яна як быццам зарукай лепшае будучыні. Дзеля таго іменна ворагі беларускага адраджэнскага руху ўсялякімі спосабамі стараюцца схаваць беларускую гісторыю і кажнаму працаўніку на ніве беларускага адраджэньня, кажнаму Беларусу зараз-жа хочуць угаварыць, што Беларусы ня маюць ні свае гісторыі ні культуры. Усе такія намаганьні наскрось фальшывыя, нягодныя і вымагаюць з боку Беларусаў рашучага адпору. Дзеля таго трэба, каб кажны Беларус з малых дзён ведаў ужо, што Беларусы жылі калісь самастойна, незалежна, сваім беларускім гаспадарственным жыцьцём, што нашая беларуская мова была мовай дыплёматаў, што ёю гаварылі ня толькі сяляне, але духоўнікі, князі, шляхта і каралі, каторыя засядалі і на польскіх нават тронах; пабеларуску пісаліся законы. Беларусы праз свайго слаўнага др. Фр. Скарыну і ягоных беларускіх наступнікаў былі першымі пашыральнікамі друкарства на ўсходзе Эўропы ў XVI ст., каторае было меркай разьвіцьця культуры. З нашага краю выйшлі вялікія пісьменьнікі — Адам Міцкевіч, Дастаеўскі, слаўныя кампазытары — Глінка, Манюшка, Карловіч і шмат іншых выдатных людзей.

Беларускі адраджэнскі рух мае ўжо так-жа сваю гісторыю і традыцыю. Ужо ў 1863 г. падняў кліч вольнасьці для Беларусі Кастусь Каліноўскі, які зьгінуў за гэта на царскай расейскай шыбеніцы ў Вільні 10-га сакавіка 1864 г. У 1881 годзе 2-га сакавіка зьгінуў за вольнасьць Беларусі Ігнат Грынявіцкі, забіваючы бомбай расейскага цара Александра II. У 1905 г. (м-ц сакавік) першы зьезд беларускіх сялян дамагаўся краёвае аўтаноміі для свайго Краю з аддзельным Соймам у Вільні. Калі-ж настаў час Вялікае Расейскае Рэвалюцыі Беларусы побач з іншымі паняволенымі Расеяй народамі — Літоўцамі, Украінцамі, Палякамі, Латышамі, Эстамі, Фінамі, Грузінамі—прыступілі да будаўніцтва свайго гаспадарства і **25-га сакавіка 1918 году Беларусь была абвешчаная Вольнай і Незалежнай Рэспублікай.** Праўда, пераважаючая варожая бальшавіцка - расейская сіла не дала магчымасьці Беларусам правесьці ў жыцьцё Вялікі Акт 25. III. 1918 г., а Рыскі Трактат 18.III.1921 г. падзяліў землі заселеныя Беларусамі на часткі,—аднак гэны Вялікі Акт мае вялізарнае значэньне для беларускага адраджэнскага руху і сяньня і ў будучыні. Беларусы, ня гледзячы на няспрыяючыя абставіны, стварылі сваю літаратуру сягаючую найвышэйшых ступеняў сусьветнае літаратуры.

Коратка гаворачы, маем мы сваю багатую культуру, гісторыю, традыцыю. Пазнаўшы ўсё гэта, разважыўшы добра кажны гістарычны факт, можам ня толькі адным махам раскрываць фальшы нашых ворагаў, але здабыць вялікую навуку на будучыню.

Сёлета месяц пазнаваньня гісторыі Беларускага Народу, гісторыі Беларусі, зыходзіцца разам з месяцам таннае беларускае кнігі, каторы наладзілі беларускія выдавецтвы ў сакавіку. Гэта фактычна яшчэ больш узмацоўвае працу над пазна-

# Пяюць Беларусы

*Канцэрт Хору БСС пад кіраўніцтвам Р. Шырмы*

„Пяюць на Каляды, на Запускі, на Вялікдзень, на Тройцу, на Яна Купалу, у Пятроўку, на зажынках і дажынках. Пяюць на радзінах, і на хрэсьбінах, пяюць дзіця калыхаючы, і самі дзеці пяюць гуляючы: пяюць на ігрышчах і вечарынках, і на вясельлях і на хаўтурах, і ў бясед зе і ў працы і ў маскалі ідучы, і ўва ўсякай іншай прыгодзе. Так скрозь увесь год пяюць.“—Гэтак кажа аб беларускіх сьпевах у „Апокрыфу“ Максім Багдановіч. І сапраўды пяюць Беларусы заўсёды, ці ў долі ці нядолі. Песьня ў нашым народзе сталася часткай ягонай душы. Праз песьню вылівае народ наш сваю радасьць і боль. Песьня сталася для нас нечым дарагім, неадлучным. І гэтай неадлучнай дарагой беларускай песьні пасьвяціў сваю працу Рыгор Раманавіч Шырма. Улажыў ён у гэту працу сваю душу і сваей адданасьцю, любоўю пазнаў усе тайніцы беларускае песьні. Усе-ж свае старыньні сьціраваў да таго, каб краса беларускае песьні была яшчэ большай, каб песьня гэта ўвабралася ў найстрайнейшыя ўбёры. Дзякуючы стараньню грам. Шырмы, беларускай песьні даюць культурна-музычную апрацоўку такія слаўныя кампазытары, як: Кошыц, Гайворонськый, Грэчанінаў і шмат іншых.



Р. ШЫРМА

* * *

3.III сёлета ў Залі Сьнядэцкіх Віленскага Унівэрсытэту адбыўся канцэрт хору Беларускага Студэнцкага Саюзу, прысьвячаны пятнаццатым угодкам працы гр. Р. Шырмы над беларускай песьняй. Перад канцэртам аб працы грам. Р. Шырмы і беларускай песьні прачытаў рэфэрат студ. А. Засім, а М. Танк прачытаў свой стройны верш прысьвячаны Юбіляру і беларускай песьні.

Сам канцэрт у выкананьні хору жаночага і хору мяшанага пад кіраўніцтвам Р. Шырмы быў, можна сказаць, рэпрэзэнтацыйным і дапасаваным да юбілею. Выкананьню ня толькі мы, але хіба і фаховыя крытыкі ня знойдуць закіду. Праграма прадстаўлялася проста імпонуюча. Досыць будзе толькі пералічыць самых кампазытараў, каб прадставіць сабе, як яна выглядала. І так: Кошыц, Грэчанінаў, Гайворонськый, Галкоўскі, Уладзімерскі, Рагоўскі, Сьвешнікаў, Евец—гэта людзі, каторыя палюбілі бел. песьню і сапраўды паднялі яе на высокі мастацкі ровень.

Паводле характару найбольш было выканана песьняў валачобных, якія вельмі памастацку, з належным зразуменьнем, згармaнізаваў праф. Гайворонськый. Трэба сказаць, што гэта было зроблена вельмі на часе. Бо хоць можа іх лік для некаторых быў за вялікі, за тое прыпомніў Беларусам, што і аб гэтым багацьці трэба памятаваць.

Валачобныя песьні, каторых так маем многа, якія так нядаўна масава, шырока па ўсім нашым краю сьпявалі валоўнікі (або як у іншых мясцовасьцях ваньнем беларускае гісторыі. Бо якраз, дзякуючы гэтай прадажы беларускіх кніг—абніжана цана на беларускую гістарычную літаратуру, без каторай ня можна пазнаць гісторыі. І з гэтае таннае прадажы кніг трэба карыстаць. Я. Н.

# Лядавіковая эпоха на Беларусі

*Скуль узяліся ў нас каменьні?*

Вялікаю масаю каменьняў пакрыты наш Край. Шмат іх ёсьць на палёх, лясох, па берагох і ў карытах рэчак. Вялічыня іх розная. Ёсьць каменьні маючыя вагу тысячы пудоў. Але найбольш даюцца ўзнакі беларускім гаспадаром каменьні маленькія, каторыя пакрываюць мясцамі таўстым слоем поле. Цяжка абрабляць такое поле. Мучыцца конік, мучыцца сам гаспадар, нішчацца земляробскія прылады і ўпраж, асабліва пры араньні такога поля. Мне самому прыходзілася араць такое поле. Увесь час прыходзілася трымаць плуг моцна ў руках, бо нарог, напатыкаючы на камень, выбіваў плуг із зямлі. Такім чынам каменьні вельмі перашкаджаюць апрацоўцы зямлі, таксама ад'ёмна дзеюць і на ўраджайнасьць нашых грунтоў. З другой-жа стараны каменьні ёсьць карысны, як будаўляны матар'ял. З іх муруюць будынкі, брукуюць вуліцы і дарогі і т. д. Узьвязку з праводжаньнем дарог, колькасьць каменьняў на нашых палёх зьмяншаецца.

Паўстае пытаньне, скуль у нас узяліся каменьні. Справу гэтую пастараемся высьвятліць.

Шмат тысячаў гадоў таму назад у паўночнай Эўропе быў непараўнана клімат зімнейшы ад таго, які ёсьць у сучаснасьці. Тадыж ад дажджу і вялікае масы сьнегу ў паўночных краёх, як у Фінляндыі і Скандынавіі (Швэцыя і Норвэгія) павырасталі вялікія масы лёду, які пакрыў паверхню гэтых краін слоем таўшчынёю некалькі сот мэтраў. На гэтых лядзяных слаёх паўставалі новыя лядавыя горы, таму, што ўвесь час ліліся дажджы й ішоў сьнег.

Пад уплывам сілы, з якою ціснулі вышэйшыя пласты лёду на ніжэйшыя апошнія рухнуліся з месца і пачалі паўсьці на поўдзень. Пасоўваючыся на поўдзень, лядавыя горы сунулі перад сабою вялікую масу большых і меншых скалаў. Лядавік пераціраў каменьні на пясок. Шмат было каменьняў на верху лядавіка, шмат іх было і пад сподам, якія ён адрываў ад скальных гораў Скандынавіі, шмат іх было і па бакох і краёх лядавіка.

Каменьні, пясок, гліну называюць морэннаю. Канцавою морэннаю называюць тую, якую сунуў лядавік перад сабою. Тая морэнна, якая знаходзілася пад сподам лядавіка, называецца падысподнаю морэннаю.

Праз тысячы гадоў дапоўз лядавік да нашага Краю і пакрыў сабою з вялікаю колькасьцю фінляндскіх каменьняў усю нашу старонку. Пакрыў лядавік значную

называюць іх галакальнікі) на Вялікдзень, пакрысе як быццам заціхаюць. Тымчасам прыгожыя валачобніцкія песьні, ды сам валачобніцкі звычай не заслугоўваюць на тое, каб аб іх забываць. Наадварот, трэба старацца, каб песьні гэтыя праз цэлыя Вялікодныя дні, вечары і ночы ня сьціхалі. І сучасная моладзь не павінна валачобніцтва стыдацца, а разьвіваць яго, як свой нацыянальны прыгожы звычай. Ужо загадзя перад Вялікадням трэба групамі моладзі вучыцца гэтых песьняў і імі вітаць усіх Беларусаў, увесь свой край у дзень вялікага сьвята Ускрашэньня Хрыстовага.

Варочаючыся да канцэрту, каторы даў магчымасьць вялікаму натоўпу людзей запоўніўшых залю перажыць прыемныя хвіліны, за што хору і ягонаму рэгенту— Юбіляру сыпаліся бурныя воплескі, —трэба падчыркнуць і ўмелую яго арганізацыю студэнтаў. БСС фактычна за 3 дні сарганізаваў канцэрт, каторага Беларусам могуць пазайздросьціць усе іншыя віленскія хоры.

Я—к



# Estonija

24-ha lutaha sioleta Estonija śviatkavała 21-ja ŭhodki svajho niezaležnaha isnavańnia. Nievialiki hety kraj maje svaju vielmi cikavuju historyju, z jakoj varta paznajomicca.

Estonija zajmaje ciapier abšar 48,000 kv. klm. Usiaho-ž nasielnictva jość 1,300,000 asob. Pry tym Estoncaŭ samych z hetaha liku jość 88 pracentaŭ, a rešta — Rasiejcy, Švedy, Niemcy, Žydy i inš. Historyja Estoncaŭ, ci jak ich niekatoryja nazyvajuć Estaŭ, siahaje V stahodździa pierad Naradžeńniem Chrysta. U henym časie pryvandravali jany z pad Uralskich horaŭ i asieli nad bierahami Bałtyckaha mora miž Ryskim i Finskim zalivami. Mnohi lik rekaŭ i vaziorаŭ u hetaj krainie, a taksama dostup da mora pryčynilisia da taho, što ŭ Estonii vielmi mocna raźvity rybny promysieł. Apráča taho zajmajucca Esty ziemlarobstvam i pakrysie raźvivajecca prymysieł tkacki (tkaniny i viaroŭki da karabloŭ), eksploatujuć gips, fosfaryt, palny łupok i inš. naturalnyja bahaćci, katorymi nadta pachvalicca Estonija nia moža. Zajmajucca Esty i handlam i to z daŭnich časoŭ, bo kraj ichni jakraz raspałožany na handlovych šlachoch paŭnočnych narodaŭ z paŭdzionnymi — Łatyšami, Biełarusami i h. d., i z uschodu z Rasiejaj.

Takoje adnak dahodnaje dla handlu gieografičnaje pałažeńnie było zhubnym dla samastojnaha žyćcia Estaŭ, katoryja nie zmahli doŭha ciešycca svajej niezaležnaściaj, bo chutka Estonija stałasia miescam baraćby silniejšych narodaŭ, jakija vajujučy za svaje ŭpływy paniavolili estonski narod. Užo na pačatku XII stahodździa Estoniju zavajavali Kryžanoscy. I tady Estoncy stalisia paniavolenymi, hublajučy svabodu, ziamlu i svaju majemaść. U XVI st. vialikaja siła Rasiei prymusiła Estaŭ šukać sabie apieki ŭ Švedaŭ. I za časoŭ švedzkaha karala Gustava Adolfa faktyčna dola Estaŭ papravilasia, źmienšylisia padatki, ahraničylisia pravy šlachty a pabolšali pravy sialan, dy možna było mieć svaju majemaść. Gustaŭ Adolf daŭ tak-ža mahčymaść raźvivać školnictva i załažyŭ słaŭny universytet u m. Tartu.

XVIII stahodździe pryniasło Estam carskuju maskoŭskuju niavolu. Viarnulisia jznoŭ pravy šlachcie i dola narodu, asabliva sialan, pradstaŭlałasia žudasna. Ale ŭsio maje svoj kaniec. Skasavańnie caram Aleksandram I u 1864 h. panščyny pryniasło estonskamu narodu lepšuju dolu i bolšyja pravy. Rodzicca tady niezaležnicki, adradženski ruch, jaki što-raz bolš mahutnieje i ŭrešcie 24 lutaha 1918 hodu, skarystaŭšy z Vialikaje Revalucyi ŭ Rasiei, Esty abvieścili svoj kraj volnym i niezaležnym z stalicaj u m. Tallin (Revel).

---

частку Украіны і ўсю паўночную Эўропу. Пад лядавіком былі — Польшч і значная паверхня Нямеччыны. Агулам ён пакрыў плошчу да 6 мільёнаў кв. клм.

Доўгі час была пакрыта наша зямелька лядавіком. Калі настаў цяплейшы клімат, гэтыя аграмадныя масы лёду пачалі таяць ад чаго паўстала шмат вады, якая рынулася цячы ўва ўсе бакі да мораў і акіянаў. Лядавіковыя рэкі, плывучы да мораў, павыкопывалі даліны, якія захаваліся і да сягоньня — званыя лядавіковымі далінамі. Спачатку лядавіковыя воды ня мелі пэўнага сьцёку. На паўдні Беларусі і ў Украіне ляглі Аўратынскія горы, якія загарадзілі дарогу сьцёку вады. Такім чынам паўстала Гэрадогавае*) Мора — вялізарнае возера. Яно пакрыла ўсю паўдзённую Беларусь. Сьлед ад яго — сучаснае Палесьсе. Таксама тварыліся і другія вазёры, як Полацкае возера і інш. Былі вазёры і на абшары цяперашняй Налібоцкай пушчы, таксама ў паўднёвай частцы Ігуменскага пав. і г. д. Таючы лядавік пакідаў на мейсцы вялікую масу каменьняў, пяску, гліны і нават цэлыя скалы. Гэтыя масы пяску, каменьняў і гліны, прынесеныя лядавіком із Фінляндыі і Скандынавіі, пакрылі нашу бацькаўшчыну карою больш 107 мэтраў грубіні. Пад уплывам вады, марозу і паветра скалы пашчапаліся на каменьні, каменьні перетвараліся ў жвір, а із жвіру паўстала морэнная гліна.

Калі мы возьмем кавалак гліны і разбалтаем у бягучай вадзе, то паўстане муць, якая паволі асядае на дно. Гліна складаецца з дзьвюх частак: з пяшчынак і глею. Пяшчынкі, як цяжэйшыя, асядаюць на дно скарэй. Глей — лёгкі, яго можа вада занесьці далей. У канцы-ж і глей, як цяжэйшы ад вады, нейдзе мусіць асесьці на дно. Бягучая вада, такім чынам, дзеліць морэнную гліну на пясок і глей. З пад лядавіка цякло на поўдзень шмат рэчак, якія размывалі, захаплялі і цягнулі морэнную гліну на поўдзень. Скаламучаная вада з морэнным матар'ялам улівалася ў Гэрадогавае мора. Тут цёк вады звальняўся, пясчынкі ападалі на дно, а глей вада нясла далей. Таго, чаго не дакончыла вада, даканаў вецер. З лядавіка дзьмулі вятры. Трапляючы на прастор не заняты лёдам, вятры рабіліся цяплейшымі. Вятры абсушылі, а нават перасушылі звольненыя ад лядавіка прасторы. На месцы лядавіка і лядавіковай вады такім чынам паўстала пустыня з морэннай гліны. Вецер выдзімаў лягчэйшыя часьціны—глей, падымаў вялікую масу пылу і гнаў яго

*) Назоў гэты паходзіць ад імя грэцкага вучонага — Гэродота, які жыў 2415 гадоў таму назад. У творах яго мы спатыкаем ладне вестак аб жыцьці Беларусаў і аб тагачаснай геаграфіі Беларусі.

U svajej adradženskaj pracy i paśla ŭ samastojnym žyćci Esty, miž inšym, vialikuju ŭvahu zvaročvali na narodnuju tvorčaść svajho narodu – zapisvali jaje, apiakavalisia, raźvivali, šanavali i šanujuć, jak vialiki nacyjanalny svoj skarb. U 1932 h. u Estonskim Archivie Narodnaj Paezii było ŭžo sabrana 374,691 bačynaŭ rukapisaŭ, na jakich było zapisana kala 80 tysiač daŭniejšych narodnych pieśniaŭ, 20 tysiač naviejšych narodnych pieśniaŭ, 115 tysiač dziciačych pieśniaŭ i rymaŭ, 5 tys. varjantaŭ ptušynych pieśniaŭ i inšych hukaŭ pryrody, 5 tys. hulniaŭ i skokaŭ, 107 tys. prykazak i typovych zvarotaŭ, 73 tys. zahadak, 56 tys. narodnych baśniaŭ, 106 tys. apisańniaŭ vieravańniaŭ i zvyčajaŭ, razam bolš 630 tys. folklorystyčnych pazycyjaŭ z dadatkam 16 tys. narodnych melodyjaŭ, niekalki tysiač jazykovych zaciemak i gieografičnych nazovaŭ, mnohich etnohrafičnych, archeolohičnych, kulturna-historyčnych apisańniaŭ i inš. Hetakija adnosiny Estaŭ da svajej narodnaje tvorčaści pakazvajuć i nam Biełarusam, jak treba šanavać svaje pieśni, kazki, zvyčai i h. d. Ahułam Esty — heta narod vielmi pracavity, vytryvały i kulturny. Školnictva raźvita ŭ ich vielmi dobra. Analfabetaŭ majuć tolki 12,7 pracentaŭ.

Niezaležnaja Estonija ŭ najbližejšym kantakcie znachodzicca z Łatvijaj i Litvoj. I hetyja try nievialikija haspadarstvy tvorać h. zv. nadbałtycki blok žyvučy ŭ bliskaj łučnaści i raźvivajučy dabrabyt svaich krajoŭ, katoraha zazdrościać im šmat jakija daloka bolšyja abšaram, likam nasielnictva i naturalnymi bahaćciami haspadarstvy. Isnavańnie niezaležnaje Estonii, Litvy, Łatvii i ichni dabrabyt žjaŭlajecca najlepšym dokazam, što kožny narod sam patrapić najlepš układać svajo žyćcio i najlepšym źjaŭlajecca haspadarom. Adnačasna žyvučaść Estaŭ jość najlepšym dokazam, što narod, jaki choča žyć samastojna i za heta zmahajecca, raniej ci paźniej asiahnie svaju metu!... Z. B.

## *Ой у полі*

*(З народнае творчасьці)*

*Ой у полі над ральлёю*
*Вароны лятаюць...*
*Маладую дзяўчыначку*
*Да шлюбу ўбіраюць.*

*Ўюць вянок ёй на галоўку,*
*Жартамі сьмяюцца...*
*Ў маладой дзяўчыначкі*
*Як боб сьлёзы льюцца...*

*Яна беленькім платочкам*
*З твару іх сьціpae...*
*Ды ўхапіўшыся за сэрца*
*Цяжанька ўздыхае...*

*Што мінаецца гадзіна*
*Паненкой гуляці...*
*Да яшчэ гарэй дзяўчыне*
*З нелюбым шлюб браці.*

*Што ні знала, ні гадала,*
*Скуль ён такі ўзяўся...*
*А каго шчыра кахала,*
*Той чужым застаўся.*

*А. Гацура*

## Хто ўзарваў праваслаўную капліцу ў Маладэчне?

У 1938 г. летам была вельмі галоснай справа ўзрыву праваслаўнае капліцы ў Маладэчне. Пакульшто віноўнікі ня былі выкрытыя. Пасьля аднак, падазрэньне ськівавалася на сябру „Звёнзку Млодэй Польскі“ А. Влодарчыка і на каталіцкага ксяндза Завадзкага. 26.II.39 г. справу гэту разглядаў Віленскі Акружны Суд і ў сваім прысудзе гэтак, між іншым, піша: „Акружны Суд у Вільні разгледзіўшы справу Антона Влодарчыка абвінавачанага за тое, што ў ночы на 18 жніўня памог ксяндзу капэляну капітану Міхалу Завадзкаму і іншым нявыяўленым асобам узарваць пры помачы ўзрыўчывых матэрыялаў праваслаўную каплічку пры вуліцы Маршала Пілсудзкага“..., а далей, „што ў ночы на 30 жніўня 1938 г. у Маладэчне памагаў кс. капэляну М. Завадзкаму ністожыць праваслаўную каплічку пры вуліцы Сенкевіча, прыносячы да гэтай капліцкі 12 ціметровую вяроўку, пры помачы якой і цяжкога самаходу мела быць развалена гэта каплічка, чаго аднак не даканана, бо паліцыя затрымала Влодарчыка з успомненай вяроўкай, — прызнае віну абвінавачанага даказанай і пастанаўляе: А. Влодарчыка засудзіць на 1 год вастрогу...



на поўдзень. За р. Дзясною, ужо на ўкраінскіх сгэпах, пыл гэны асядаў, творачы таўсты пласт слою вельмі ураджайнай зямлі, які нямецкія вучоныя назвалі лёссам (löss). Там скора павырасталі буйныя стэповыя травы, бо ў лёссе шмат ёсьць пажыўных для расьлін частак. З кажным годам маса гэных траваў буцьвела, творачы чарназём. Але ня толькі лёсс несены вадой і ветрамі асядаў на Украіне. Асядаў лёсс і на Беларусі. Лёсс ляжыць у нас у Чарнігаўшчыне, Наваградчыне і ў іншых частках паўднёвай Беларусі.

На лёссе расьлі стэповыя травы, тварыўся чарназём. І гэтыя астраўкі стэпу абкружаныя лясамі—былі мяйсцамі, гдзе пачало разьвівацца беларускае земляробства.

На мейсцы, гдзе морэннага матар'ялу асталося шмат (канцавыя морэнны), ні вада ні вецер не маглі цалком зраўняць мяйсцовасьці. Каменьні праз шмат гадоў разсыпаліся на жарству і гліну, на якіх пачалі расьці дрэвы і травы. Тут выпаласківаючую, руйнуючую дзейнасьць вады стрымлівала расьлінная адзежа. Мейсца канцавое морэнны пакрылі лясістыя ўзгоркі і сьветлыя вазёры. З пустыннае морэнны паўстаў прыгожы морэнны край. Канцавыя морэнны паказываюць нам, дакуль дапоўз лядавік, або дзе ён на даўжэйшы час затрымаўся.

Лядавік некалькі разоў пасоўваўся на поўдзень. Першы раз ён пасоўваўся вялікаю суцэльнаю масаю. Наступным разам ён поўз шырокімі лядавіковымі рэкамі. Сьляды яго — астаўлены морэнны матар'ял у форме падковаў. За гэтым разам заняў ён паўночна заходнюю Беларусь да Віцебска і Менска. Раўнінны краявід з выгладжанымі каменьнямі, пяскамі і глінамі — гэта месцы, дзе лядавік адлажыў падысподнюю морэнну. Лідчына ёсьць тыповым прасторам, дзе іменна лядавік адлажыў падысподнюю морэнну.

У сувязі із зьменамі кліматычных умоваў пачалі высыхаць лядавіковыя вазёры. На мейсцы Гэрадотавага возера асталося, некалькі вазёраў, як воз. Князь, Выганаўскае і інш., вялізарныя палескія балоты і пескавыя прасторы Палесься. Падобныя сьляды асталіся і ад другіх вазёраў лядавіковага паходжаньня.

Геолёгія, — навука аб гісторыі зямлі—сьцьвердзіла, што баць каўшчынай каменьняў ёсьць Скандынавія і Фінляндыя і толькі адтуль яны былі прынесеныя лядавіком на Беларусь.

*К. Чэртовіч*



UVAHA! УВАГА!

# Sakavik — miesiac tannaj biełaruskaj knižki

Dzieła baraćby z niahramatnaściaj, dzieła pašyreńnia aśviety ŭ biełaruskich masach, vydaviectvy i paasobnyja vydaŭcy biełaruskich knižak, supolna z biełaruskaj kniharniaj „Pahonia,“ ładziać specyjalna tannuju pradažu biełaruskich knižak i padručnikaŭ. Z hetaj metaj vyznačajecca Sakavik — *miesiacam tannaj biełaruskaj knižki*, u praciahu katoraha pradajucca pa źnižanaj canie nastupnyja biełaruskija knižki.

## I. Dla navuki čytańnia i pisańnia pa-biełarusku

*Cana*

1. Першыя зернятк*і* — С. Паўловіча (буквар), выд. Я. Малецкага . . 0,25
2. Пішы самадзейна — С. Паўловіч (разьвіцьцё самастойнага пісьма) . . 0,50
3. Novy lemantar — J. Stankieviča . . 0,20
4. Беларуская граматыка — Б. Тарашкевіча . . . . . . . . . . 0,50
5. Biełaruskaja hramatyka — B. Taraškievіča 0,30
6. Беларускі правапіс — Р. Астроўскага 0,50
7. Родны Край ч. I — Л. Гарэцкай . . 0,50
8. Родны Край ч. II — Л. Гарэцкай . . 0,75
9. Родны Край ч. III і IV — Л. Гарэцкай 1,25

## II. Litaratura dla dziaciej:

1. Kazka ab rybaku i rybcy . . . . . . 0,20
2. Мышанё Пік . . . . . . 0,30

## III. Historyja biełaruskaj litaratury

1. Гісторыя беларускай літаратуры — М. Гарэцкага . . . . . . . 1,00
2. Хрыстаматыя старое беларускае літаратуры — М. Гарэцкага . . 1,00
3. Хрыстаматыя бел. літаратуры ад 1905 г. — М. Дварчаніна . . . 2,50
4. Адбітае жыцьцё — А. Навіны . . . 1,00

## IV. Historyja ahulnaja, biełaruskaja i hieohrafija

1. Падручнік Новай Гісторыі — Р. Віппэра 0,30
2. Падручнік Навейшай Гісторыі — „ 0,50
3. Кароткі Нарыс Гісторыі Беларусі — 0,60
4. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня - Ад. Станкевіча 1,00
5. За 25 гадоў — А. Луцкевіча . . . . 0,50
6. Д-р Фр. Скарына (гражданкай і лацінкай) — Ад. Станкевіча . . 0,25
7. Географія Беларусі — А. Смоліча . . 1,50

## V. Haspadarka

1. Ziemlarobskaja čytanka — A. Klimoviča 0,50
2. Leki na ździeki — „ 0,10
3. Садоўніцкая чытанка — А. Клімовіча 0,50
4. Пчолы — Я. Пачопкі . . . . . . 2,00
5. Малочная карова . . . . . . . 0,40
6. Гароднiцтва . . . . . . . . 0,30
7. Страшны вораг . . . . . . . 0,20

## VI. Sceničnyja tvory

1. Боты, Мікітаў Лапаць, Пакой у наймы, Чорт і Баба . . . . . . 0,50
2. Гурток . . . . . . . . . . 0,20
3. У зімовы вечар . . . . . . . 0,40
4. Паўлінка . . . . . . . . . 0,50
5. Лекары і лекі . . . . . . . 0,50
6. Раськіданае гняздо . . . . . . 0,50
7. Ня розумам сьцяміў а сэрцам . . 0,40
8. Апошняе спатканьне . . . . . 0,20
9. Суд . . . . . . . . . . . 0,20
10. Пан Міністар . . . . . . . . 0,40
11. Дзядзька Якуб, Міхалка, На вёсцы Пярэстая Красуля . . . . 0,80
12. Па рэвізіі, Модны шляхцюк . . 0,40
13. Пашыліся ў дурні . . . . . . 0,40
14. Суд над трохпалёўкай . . . . . . 0,20

## VII. Piesieńniki

1. Дзіцячы сьпеўнік — А. Грыневіча 0,30
2. Беларускі песеньнік з нотамі — Л. Рагоўскага . . . . . . 0,30
3. Рэпэртуар бел. хору. Бел. народн. песьні — Р. Шырмы . . . 1,50
4. Za Baćkaŭščynu (śpieŭnik) A. Stepoviča 0,50

## VIII. Mastackaja litaratura

1. Шляхам Жыцьця — Я. Купалы . . 1,00
2. Новая Зямля — Якуба Коласа . . 1,00
3. Сымон Музыка — „ . . 0,50
4. У Палескай глушы — Т. Гушчы . 1,00
5. У Глыбі Палесься — „ . 1,00
6. Вянок - М. Багдановіча . . . . 0,75
7. Dudka Biełaruskaja i Smyk Biełaruski — Fr. Bahuševiča . . . . 0,50
8. Maja Lira — K. Svajaka . . . . . 0,60
9. Na pryźbie — J. Byliny . . . . . 0,30
10. Судны дзень — Караленкі . . 0,40
11. Снапок . . 0,30
12. Chłapiec — V. Advažnaha . . . 0,50
13. Cymbały „ . . . 0,50
14. Z Rodnaha Zahonu — A. Ziaziuli . 0,50
16. Мамчына Горка — М. Машары . . 0,25
17. Пад Мачтай — М. Танка . . . . 1,50
18. З сялянскіх ніў — М. Васілька . . 0,30

Usie vyšej pieraličanyja padručniki, knižki i śpieŭniki možna vypisać z biełaruskaj kniharni „Pahonia,“ jakaja pa atrymańni zakazu i hrošaj biezzadkładna vyšle zaprošanyja knižki.

UVAHA! Pry vypisyvańni knižak na sumu da 5 zł. treba prysyłać 20 prac. na pierasyłku, a vyšej 5 zł. — apłačvaje pierasyłku kniharnia. Dzieła hetaha vyhadniej vypisyvać hetyja knižki ŭskładčynu, bolšaj kolkaściaj, na bolšuju sumu i dla niekalkich asob na adzin adras. Knižki možna vypisyvać paštoŭkaj, padajučy tolki nazoŭ knižki. Zakazy možna kiravać na hetki adras: **Księgarnia „Pahonia“, Wilno, Zavalna 1.**

# BIEŁARUSKAJA CHRONIKA

**Ahulny schod Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu ŭ Vilni.** U niadzielu 26.II. sioł. adbyŭsia zvyčajny hadavy schod Bieł. Stud Sajuzu U. S. B. Schod pryniaŭ spravazdaču Uradu Sajuzu z dziejnaści za minuły akademicki hod i vybraŭ novyja ŭłady svaje arhanizacyi: U Urad Sajuzu vybrany: U. Karol (staršynia), Č. Najdziuk (vice staršynia), N. Leŭkavičanka (sakratar), K. Šeška (skarbnik) i V. Luściber (haspadar). U Revizyjnuju Kamisiju: V. Jermałkovič, M. Smarščok i N. Marcinčyk. Schod studentaŭ adnačasna pryniaŭ cełу čarod rezalucyjaŭ, ab jakich, a taksama i ab schodzie šyrej budzie ŭ „Šlachu Biełaruskaha Studenta“ dn. 25 h. m-ca.

**Schod Biełaruskaha Navukovaha T-va.** 12 lutaha sioleta adbyŭsia ahulny hadavy schod siabroŭ Bieł. Navukovaha Tavarystva ŭ Vilni, na jakim paśla spravazdačy Uradu i Rev. Kamisii z dziejnaści za minuły hod vybrany novyja ŭłady hetaje arhanizacyi. U ŭrad vybrany:staršynia—A. Łuckievič, skarbnik A. Trepka, sakratar M. Škialonak, siabry ŭradu: J. Stankievič, B. Hrabinski, M. Piaciukievič, zastupniki: O. Rusačanka-Radzievič, P. Siarhijevič i V. Hryškievič. Dziejnaść T-va nia hledziačy na ciažkija mataryjalnyja abstaviny była žyvaja. Miž inšym T-va pry pomačy ŭsiaho biełaruskaha hramadzianstva ŭtrymlivaje i apiakujecca Biełaruskim Muzejem im. Ivana Łuckievіča.

**Schod Biełarusaŭ katalikoŭ.** 5 h. m. u Vilni adbyŭsia schod Biełaruskaha Kaścielnaha Kamitetu, na jakim abhavarvalisia relihijnyja biełaruskija spravy, a taksama vybrana novaje kiraŭnictva Kamitetu.

**Rekalekcyi dla Biełarusaŭ katalikoŭ** u Vilni adbuducca ŭ kaściele św. Mikałaja 16, 17 i 18 sakavika. Kiravać imi budzie a. Šnip. Pačatak a hadz. 18 min. 30.

**Z žyćcia Biełarusaŭ na čužynie.** *Biełarusy ŭ Francyi.* „Bieł. Front“ 1.III piša, što Biełarusy ŭ Francyi pastanavili što-hod pravodzić miesiac (ad 15.I da 15.II) bieł. zamiežnaj presy. Zadańniem hetaha miesiaca jość znajomić bieł. emihrantaŭ z bieł. presaj i pašyrańnie jaje. Užo žbirajucca adrasy bieł. emihrantaŭ u Francyi, Čechasłavaččynie, Halandyi, Belhii, Brazylii, Arhientynie, Kanadzie, na Dalokim Uschodzie i inšych krajoch. Hetak naviazvajecca suviaź miž usimi Biełarusami na emihracyi. Dziela drukavańnia i pašyrańnia bieł. presy stvorany Presavy Fond.

Pry Chaŭrusie Bieł. Rabotnikaŭ u Francyi (Paris (3). 65 Rue des Graviliers) zasnavałasia Biuro Pasiarednictva Pracy. Paŭstaŭ tak-ža prajekt załažyć Biełaruskuju Kasu Uzajemnaj Dapamohi, jakaja pamahała-b bieł. emihrantam u časie biezraboćcia.

Žbirajucca taksama składki na vydańnie novaj karty Biełarusi.“

*Damahańni biełaruskich emihrantaŭ u Kanadzie.* Hazety paviedamlajuć, što biełaruskija emihranty z našaha kraju ŭ Kanadzie masava padpisvajuć damahańnie palepšańnia doli Biełaruskaha Narodu ŭ Polskim Haspadarstvie. Damahańni henyja majuć być vysłanyja polskamu ŭradu.

*Biełaruski Centr u Litvie.* Biełaruski Centr u Litvie zasnavany ŭ 1923 h. i hurtuje ciapier kala siabie ŭsich biełaruskich adradženskich i kulturnych dziejačoŭ u Litvie, a tak-ža biełaruskich studentaŭ universytetu Vitaŭta Vialikaha ŭ Koŭnie. Praca Centru ŭ apošnija časy značna ažyviłasia. U zasnavanym pry Centry narodnym universytecie kažnuju subotu i napiaredadni śviataŭ adbyvajucca lekcyi z historyi Biełaruskaha Narodu, jaho adradžeńnia, kultury, litaratury, etnahrafii, archeolohii i gieografii Biełarusi; dla studenckaj i vučnioŭskaj moładzi pracujuć kursy biełaruskaha jazyka. Paśla lekcyi čytajucca tvory małych biełaruskich piśmieńnikaŭ, adbyvajucca repetycyi biełaruskaha teatru i choru. Universytet pry BC absłuhoŭvajecca pavažnymi lektarami, siarod jakich jość starejšyja navukovyja i hramadzkija dziejačy Litoŭcy, katoryja pryhoža ŭmiejuć havaryć pabiełarusku i padtrymlivajuć tradycyjnaje supracoŭnictva z biełaruskimi adradžencami. U najbližejšym časie B. C. maje ŭznavić bieł. vydaviectva ŭ Koŭnie, jakoje pracavała pry Centry ŭ 1923-27 h. h. i zrabiła kaštoŭny i vialiki ŭkład u bieł. litaraturu i navuku. Sioleta budzie zakončana pačataja letaś budova stałaha pamieškańnia dla Domu Biełaruskaje Kultury pry Centry.

*Zjezd Biełaruskaha Kulturna-Aśvietnaha T-va.* 26.II sioleta ŭ Koŭnie adbyŭsia ahulny hadavy zjezd Biełaruskaha Kulturna-Aśvietnaha Tavarystva ŭ Litvie, a tak-ža ahulny schod Nacyjanalnaha Sajuzu Biełarusaŭ u Koŭnie.

## Сьмерць В. Адамовіча

21-га лютага сёлета а 4-й гадзіне раніцай памёр, пражыўшы 75 гадоў, адзін з найстарэйшых беларускіх дзеячоў нядаўнага мінулага — Вячаслаў Антонавіч Адамовіч. Пахаваны 23.II у Вільні на праваслаўным магільніку.

Дзікімі, беднымі, нікому невядомымі былі апошнія гады жыцьця В. Адамовіча. А быў ён у 1917 г. старшынёю Вялікай Беларускай Рады і сябрам Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады ў Менску. Гэтыя арганізацыі ў сьнежні 1917 г. склікалі ў Менску Ўсебеларускі Зьезд, разагнаны штыкамі бальшавіцкіх салдатаў.Рада разагнанага Зьезду сабралася ў доме В. Адамовіча на Міхайлаўскай вуліцы ў самую ноч разгону і стуль пачала арганізоўваць процібальшавіцкую акцыю. Адамовіч шукаў рэальнай падпоры існаваўшым тады беларускім арганізацыям. Выбраны салдатамі за камандзера аднаго з палкоў паміраўшае расейскае арміі, не парываў ён жывога кантакту з Беларускаю Вайсковаю Радаю, на чале якой стаялі шмат маладзейшыя за яго людзі. Бальшавікі стараліся выдаліць з Менску полк Адамовіча і сьціравалі яго ў іншы горад...

Нудна мусі было душы Адамовіча засядаць у беларускіх палітычных клюбах Менску ў часе нямецкай акупацыі, дык пачаў ён ладзіць партызанцкую арганізацыю „Зялёны Дуб“ ціха і кансьпірацыйна... У 1919-20 г. г. служыў Адамовіч у вярбунковым бюры Беларускае Вайсковае Камісіі, легалізаванай дэкрэтам Начальніка Польскага гаспадарства Язэпа Пілсудскага 22.X.1919 году...

Пасьля рыскага міру Адамовіч прабаваў яшчэ актыўна змагацца з бальшавікамі. Урэшце-ж, пасьля ўсіх няўдачаў гэтае барацьбы, пасяліўся ў Вільні, дзе жыў вельмі і вельмі бедна з нягаснуўшай надзеяй, што згіне бальшавізм не сягоньня, дык заўтра і ўдасца яму на старасьць вярнуцца ў сваю менскую хату.

27 студня праводзіў В. Адамовіч адну з памёршых сваіх старых знаёмых да таго самага магільніка, дзе цяпер ляжыць сам; прастудзіўся моцна, ідучы бяз шапкі з Зьвярынца да Ліпоўкі, захварэў на запаленьне лёгкіх, а праз тры тыдні разьвітаўся з гэты грэшным сьветам назаўсёды.

Вечны Яму супакой! *К.*

## Usiačyna

**Źjezdy abšarnikaŭ.** Niadaŭna ŭ Varšavie, a tak-ža i ŭ inšych bolšych pravincyjanalnych miestach Polščy adbyvalisia źjezdy abšarnikaŭ. Havaryli jany mnoha ab svajej... niadoli, dachodziła až da płâču... Za toje ciešyli siabie viečaram ładziačy hučnyja viačery!

**Zabastoŭki i biezraboćcie.** Pavodle ŭradavaje statystyki ŭ 1938 h. u Polščy było 2095 zabastovak, u jakich pryjmała ŭdzieł 565,271 asobaŭ. Pavodle najnaviejšych viestak, lik biezrabotnych u Polščy pieravyšaje 600,000 asobaŭ.

**Kali byŭ patop?** Anhlijski vučony L. Vulej, jaki pravodziŭ u staradaŭnim m. Ur u kališniaj Chaldei raskopki, napatkaŭ mnoha tabličak z nadpisami z 37-ha stahodździa pierad Naradžeńniem Chrysta. Nižej pad imi byŭ naniesieny rečny muł. Spačatku dumaŭ L. Vulej, što muł hety byŭ u karycie kališniaje praciakajučaje tam rečki, kali adnak pačaŭ dalej hłybiei kapać, akazałasia, što pad trymetrovym płastom mułu znachodziacca jašče starejšyja pamiatki, roznyja pryłady, kamieńni i inš. Na asnovie hetaha L. Vulej dakazvaje, što muł heny jošć śledam katastrafalnaj pavodki, jakaja zatapiła kaliś śviet ludziej i pierarvała raźvićcio kultury. Katastrofaj henaj byŭ praŭdapadobna biblijny patop. Takim čynam možna dumać, što patop byŭ bolš jak 3,700 hadoŭ da Naradžeńnia Chrysta.

**Pjanyja kumy zhubili dzicia.** Na Paleśsi kala Pinska zdaryŭsia niadaŭna prosta niepraŭdapadobny vypadak. Imienna: K. Tarełka iz Rŭdociaj Miadźviedź paviazli z chutaru Hłuš u carkvu chryścić dzicia, tak adnak byli pjanyja, što padarozie zhubili dzicia. Jak paśla akazałasia, dzicia vypała z vozu na 5 kilametry, ale na ščaście chutka znajšoŭ jaho D. Kalita z. v. Svałavičy i addaŭ baćkom. Pa dvuch dniach na nova paviaźli i hetym razam užo dzicia achryścili. — Voś što robić harełka i pjanstva!... Kab krychu, dyk zhinuła-b dzicia ŭ svaich pieršych dniach žyćcia.

## З краю

### Нашая культурная праца

**Загор'е, Стаўпецкі пав.** Хочучы памагчы людзям здабываць сьвятло і палепшаць, я яшчэ восеньню 1937 г. шчыра заняўсяладжаньнем аматарскіх спэктакляў у нашай ваколіцы. Моладзь вельмі ахвотна ўзялася за працу, і вось з таго часу дагэтуль, ня гледзячы на перашкоды і цяжасьці рознага роду, (як тое, напр., што ў нас няма ні свайго будынку, ні сцэны, пры тым не заўсёды лёгка з дазволам), — зладжана ў нас 5 спэктакляў, на якіх пастаўлены: 5 беларускіх і 2 польскія п'есы. — Асабліва доўга помніцца будзе нам першы спэктакль — 31.X.37, — калі мы ставілі „Атруту" і „Ня розумам сьцяміў, а сэрцам". Мусіць таму, што ўсё гэта было для нас такім новым, цяжка даступным і дарагім.

Ад першага разу мы сьмела крануліся наперад і задаволіўшы сваю публіку, ставілі тыя самыя п'есы яшчэ і ў м. Турцы (7.XI.37), дзе моладзь адняслася да нас вельмі прыхільна. Падобныя выезды „ў людзі" маюць тое значэньне, што выробляюць у моладзі салідарнасьць, сужыцьцё і ахвоту культурна „падцягнуцца" перад чужымі людзьмі. — Трэці наш спэктакль — 6.II.38 г. — ня меў ужо таго хараства, моладзь з прычыны гарэлкі ня зусім належна захоўвалася. Ставілі мы тады „Моднага шляхцюка" і „Мікітаў лапаць". — 14.X.38 г., на Пакровы, ставілі мы з рукапісу мой пераклад вельмі прыгожай і вясёлай камэдыі аб п'яніцах і гарэлцы Льва Талстога „От нея все качества"—„Ад яе ўсе якасьці". Спэктакль гэны пакінуў па сабе прыемны ўспамін, бо вечарына пасьля яго адбылася ў вельмі мілым, культурным настроі, ня было ніводнага п'янога, а таму ня было ні боек, ні грубіянства, а весялосьць ды мілы парадак.

Наагул, можна пахваліцца, што моладзь наша за 2 апошнія гады шмат паправілася, што даецца заўважыць асабліва на забавах, дзе амаль заўсёды ўсе цьвярозыя і спакой. І гэта дае вялікае задаваленьне і ахвоту да культурнае працы. Бо зараз-жа відаць вялікія дадатнія плады яе, асабліва сярод моладзі.

Нажаль, апошні наш спэктакль, 15 лютага сёлета, у Турцы, прынёс нам многа прыкрасьцяў... Дазволу на беларускую часьць праграмы, тае самае п'есы „Ад яе ўсе якасьці", і дэклямацыі, жарты, — нам не далі, дзеля таго быццам, што ў нас „прыгранічная паласа"!.. З болем мы мусілі агранічыцца адною польскаю п'есаю і скокамі. Даход гэтым разам мы празначылі на помач бедным дзецям у нашай вёсцы.

Чамусьці мне здаецца, што нашая патрэбная і радасная культурная праца апошнім спэктаклем пакульшто закончыцца... А вельмі, вельмі шкада!...

**Янка Брыль**

### Vybary ŭ samaŭrad

**v. Barsuki, Dziśnienskaha pav.** U vybarach ŭ viaskovyja hramadzkija rady hałasavańnie ŭ nas mała dzie adbyvałasia, bo pieravažna było vystaŭlena pa adnym śpisku, jaki ŭkładali pany i ichnija prysłužniki. Šyrejšyja narodnyja huščy faktyčna nia viedali, jak rabić vybarnyja śpiski, nia znajučy novaha vybarnaha zakonu. Kaliž dzie paŭstavali druhija śpiski, dyk jany z roznych farmalnych pryčyn byli ŭniavažnianyja. U našaj hramadzie pobač iz śpiskam panskim znajšoŭsia śpisak, sarhanizavany miascovymi Biełarusami, jakija atrymaŭšy vybarnyja ardynacyi ad „Šlachu Moładzi" patrapili nałežna ŭłažyć svoj śpisak. Śpisak hety narabiŭ šmat šumu...i roznych staranniaŭ... našych pankoŭ... Ale paŭnamocnik biełaruskaha śpisku i inšyja byli stojkimi. Dzień-ža hałasavańnia i vybaraŭ pakazaŭ, što ŭ hramadzkuju radu prajšło Biełarusaŭ na radnych 9, a na zastupnikaŭ 14 čałaviek. Inačaj, nažal, było ŭ inšych miascovaściach, dzie vybary adbyvalisia tak, jak chaciełasia miascovaj „šlachcie". Praŭda, u inšych miascovaściach u hramadzkija rady vybrany ŭ bolšaści Biełarusy, ale słaba nacyjanalna śviedamyja i pieravažna takija, z jakimi silnym hetaha śvietu ŭdasca rabić toje, što im budzie padabacca.

**Biełarus**

### Bajkot vučyciela

**v. Juškaŭ Hruzd, Jałaŭskaja voł., Vaŭkavyski pav.** U nas jošć vučyciel, jaki kanieśnie čamuści choča, kab moładź naša nia žyła ŭ zhodzie i padburaje niekatoryja adzinki zbližanyja da jaho suproć pravasłaŭnaje biełaruskaje moładzi. Dziela taho, kab praca heta ŭdavałasia jamu, ładzić viečaryny pryciahvajučy svaich vybrancaŭ. Hetak było letaś i hetak jon zrabiŭ sioleta 4 lutaha. Adnak na viečarynu vučyciela pryjšli, dasłoŭna, tolki 3 dziaŭčyny i 5 chłapcoŭ i tyja paśla paŭciakali. U hety samy čas moładź ładzić samatužna svaje pryvatnyja biełaruskija zborki i viečarynki i na ich kulturna pravodzić svabodny ad pracy čas bajkatujučy vučyciela, katory ŭsich pravasłaŭnych abzyvaje „kacapami". Vučycielu stydna ŭsio-ž hetak havaryć i pastupać. Moładź-ža naša patrapić užo baranić siabie i nia dasca, kab jaje raźjadali dy źbivali z svajho biełaruskaha šlachu.

**V. Mir.**

Зіма ў горах

